# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 2 (724) ГОД XV БЕЛАСТОК 11 СТУДЗЕНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.

## БГКТ

### ЛЯВОНІХА

Эстрада Галоўнага праўлення «Лявоніха» да канца снежня 1969 года выязджала з канцэртамі ў вёскі і мястэчкі. Абавязваў яе план, у якім налічвалася 22 канцэрты ў месяц. У студзені, лютым і сакавіку «Лявоніха» не будзе даваць канцэртаў. Гэтыя тры месяцы адведзены ёй на падрыхтоўку новай праграмы. А гэтая новая праграма вельмі цікавая, складаецца ў большай часцы з беларускіх песень. Рэшта праграмы — гэта польскія, рускія і ўкраінскія песні, а таксама нумары танцавальнай пары і аркестра.

Неабходна сказаць і тое, што эстрада часткова зрэфармаваная, яна зменіць свой профіль. Будзе больш сучасная, трошкі біг-бітовая. Значна ўзмоцнены музычны бок. Яна ўжо не будзе даваць 22 канцэрты ў месяц, а толькі 8 канцэртаў. Ідуць намаганні, каб яе канцэрты мелі высокі мастацкі ўзровень, каб «Лявоніха» была значна цікавейшая. Гэты абавязак узложаны на мастацкага кіраўніка «Лявоніхі», прафесіянальнага музыка Мечыслава Шыманскага, які ўжо інтэнсіўна працуе над новай праграмай.

Члены эстрады будуць выконваць яшчэ адну вельмі істотную функцыю. Яны будуць дапамагаць мастацкім калектывам, будуць выязджаць з інструктажамі.

«Лявоніха» ў 1969 годзе дала 176 канцэртаў, а за дзевяцігадовы перыяд свайго існавання — каля 1800 канцэртаў. Такім чынам, «Лявоніха» выканала велізарную ролю ў жыцці беларускага асяроддзя. Яна аб'ехала па некалькі разоў амаль усе большыя вёскі Беласточчыны, выступала ў многіх мястэчках і гарадах, выязджала з канцэртамі ў іншыя ваяводствы. Добра яна прапагандавала беларускую песню.

### У ГДАНЬСКІМ АДДЗЕЛЕ

Гданьскі аддзел БГКТ у мінулым годзе арганізаваў 4 урачыстыя вечары, 3 даклады і шмат танцавальных вечарын. Гэтыя мерапрыемствы служылі гуртаванню вакол сябе беларусаў. З нагоды 25-ай гадавіны Народнай Польшчы члены БГКТ гданьскага аддзела выязджалі на грамадскі чын пры рамонце дарогі.

У гэтым годзе праўленне аддзела плануе арганізаваць харавую групу і гурток жывога беларускага слова, а таксама дыскусійныя вечарыны. Хоча таксама стварыць музычны калектыў. У гэтым абяцае праўленню дапамогу гданьскі аддзел культуры.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА АДДЗЕЛА

15-га снежня мінулага года адбылося пасяджэнне прэзідыума бельскага аддзела беларускага таварыства, які прааналізаваў дзейнасць гурткоў БГКТ і працу штатнага працаўніка Івана Шурбака, ацаніў святкаванне 52-ой гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ва ўсіх звеннях аддзела, а таксама чытальніцкі конкурс і нараду старшынь гурткоў БГКТ і актыву. Далей удзельнікі пасяджэння абмеркавалі будучы дэкламатарскі конкурс на беларускай мове для моладзі пачатковых школ, план святкавання 100-ай гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна, справы конкурсу на савецкую песню і пытанні, звязаныя з арганізаваннем навагодняй ёлкі.

У павестцы дня знайшліся таксама актуальныя справы бельскага хору і хору, які арганізуецца ў Орлі. Нямала часу было прысвечана і праблеме стварэння ў Бельску Падляшскім клуба БГКТ. (мх)



Фота Цаф — Сянько

Пад цёплым снегам — травы баравыя,
на голлі хвой і вязаў — светлы снег...
У царства чыстай цішыні, Марыя,
пакліч мяне і забяры мяне, —

дзе ў лесніхоўцы вымыта падлога,
абрус бялютка-белы на стале,
дзе за старой павеццю, каля стога,
жуе мурог няпуджаны алень.

Я не пакрыўджу вольнай пушчы сына,
я не пралью ягонае крыві,
я нават слова трубага не кіну
У чысціню аснежных баравін.

Пакліч! Ці хоць дашлі ў пісьме
сняжыну
з пушчанскіх запаветных тых мясцін...

Міхась Рудкоўскі

## ГАЙНАЎСКІЯ АМБІЦЫІ

Міхал Трафімюк, старшыня гуртка Беларускага таварыства ў вёсцы Белкі, не спужаўся мікольскага марозу ў 26 градусаў. У скрыпучую раніцу выйшаў на прыстанак ПКС. Чакаў. А калі не дачакаўся, рушыў пехатой у Гаўнаўку на павятовую канферэнцыю БГКТ. Прыйшоў, змерзшы на косць. Ног не адчуваў.

Змерзнуць здараецца кожнаму, але прыводжу прыклад гэты не таму, каб выклікаць спачуванне да М. Трафімюка, але каб адразу і зусім канкрэтна ілюстраваць факт, які часта і дагэтуль быў відны, а які цяпер вельмі моцна падкрэсліваўся ў справаздачы старшыні Аляксандра Іванюка на канферэнцыі БГКТ у Гайнаўцы. Гэты факт у скарачэнні можна назваць: **такія нашы людзі, такі наш актыў!**

Напрамак на людзей, які назіраецца ў новай дзейнасці Таварыства, прарочыць, што, напэўна, у гэтых людзей вызваліцца велізарны творчы ўздым і ахвярнасць для вялікіх і прыгожых ідэй, якія нясе ў сабе існаванне і дзейнасць Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы.

Гайнаўскі аддзел Беларускага таварыства — вядучы. Гайнаўскі аддзел сам гэта ведае і гэтым хваліцца. Старшыня аддзела Аляксандр Іванюк (дырэктар Беларускага ліцэя) у справаздачы, гаворачы аб планах і намерах, акрэсліў іх так: «Нашы гайнаўскія амбіцыі ідуць далёка. Мы ведаем, што працуем добра, але і ведаем, што працаваць трэба яшчэ лепш. Людзі — наш галоўны капітал і залог нашых дасягненняў. Гэта яны працуюць, ствараючы тое, чым мы можам сёння, як арганізацыя, хваліцца. Галоўнае заданне належыць да іх — і на будучыню і на новы год. Мы ў Беларускім таварыстве верым у людзей. Тых у Гайнаўцы, і тых на вёсках — большых і малых і тых, куды ніхто акрамя актыву нашага аддзела, не заязджае».

Прабач, чытач, што змяніла агульнапрыняты парадак і пра гайнаўскія амбіцыі на будучыню напісала найперш. Зараз прадстаўлю і іхнія дасягненні ў мінулым, бо канферэнцыя ж была справаздаўчай. Замкнула яна як бы вялікі і багаты этап дзейнасці ў адным з важнейшых раёнаў Беласточчыны, на Гайнаўскай зямлі, дзе пушча Белавежская і дзе вялікая драўляная прамысловасць, дзе вялікае і моцнае рабочае асяроддзе. І трэба адразу сказаць: у дыскусіі выйшла на яву справа слабой, або амаль і зусім не існуючай працы Гайнаўскага аддзела БГКТ у самым рабочым асяроддзі ў горадзе.

Гайнаўскаму актыву недастатковы ўжо выпрацаваны мадэль працы з вёскай. Сітуацыя і новая палітыка ГП БГКТ вымагае працы з шырэйшым кругам людзей, з рознымі грамадскімі і прафесіянальнымі групамі. Тым больш, што гайнаўскае рабочае асяроддзе выводзіцца з сялянскага, і яшчэ не загінулі абычаёвыя і сямейныя кан-

Працяг на стар. 4

**25** **год таму назад пачалася найбольшая ў мінулай вайне аперацыя, атрымаўшая назву «Вісла — Одэрскай». Адбывалася яна на польскай зямлі, удзельнічалі ў ёй мільёны людзей і магутная тэхніка. Але звернемся да першакрыніц. У гэтым выпадку найлепшай будзе кніга генерала Мікалая Антыпенкі «На галоўным напрамку». М. Антыпенка быў намеснікам камандуючага І-м Беларускім фронтам па тыле і ў сваёй кніжцы паказвае вайну «ад кухні» — мала вядомую, але без якой нельга зразумець ваенных падзей. Матэрыял павінен выклікаць тым большую цікавасць, што друкуецца ў Польшчы ўпершыню. Усе дадзеныя адносяцца да І Беларускага фронту.**

Пачаткам падрыхтоўкі Вісла-Одэрскай аперацыі лічыцца 28 лістапада 1944 г. У гэты дзень была атрымана аператыўная дырэктыва Стаўкі аб падрыхтоўцы наступальнай аперацыі. Але для тыла яна пачалася ў жніўні, па выхадзе савецкіх войск на Віслу.

Цяжка бывае франтавому тылу ў ходзе наступлення, але яшчэ цяжэй — калі яно закончана. Войскі выйшлі на Віслу, а ззаду засталіся разбураныя ўсе масты і шляхаправоды. У той час, калі фронт прасоўваўся да Віслы, дарожныя войскі будавалі масты праз Днепр, Прыпяць, Сож, Беразіну, Буг.

М. Антыпенка




Да студзеня нашы дарожнікі пабудавалі ў граніцах фронту 562 масты агульнай працягласцю 11 231 пагонны метр, умацавалі і адрамантавалі 626 мастоў даўжыней 9764 пагонных метры, пабудавалі на дарогах 185 кіламетраў драўляных пакрыццяў, спрафілявалі 1278 кіламетраў грунтовых дарог, наладзілі 1026 кіламетраў шчытоў ад завеяў, завезлі і рассыпалі 62 тысячы кубічных метраў пяску на ўчастках галалёдзіцы, нарыхтавалі 610 тысяч кубаметраў каменняў і іншых інертных матэрыялаў для пабудовы мастоў. Да заканчэння гэтых прац немагчыма было падрыхтаваць фронт да таго, каб пачаць наступленне.

У дарожных часцях фронту налічвалася 24 тысячы чалавек, 344 аўтамабілі, 287 трактараў, 6100 коней, 2930 вазоў, 36 дызель - матораў, 15 тартачных рамаў. Узровень тэхнікі дарожных часцей быў для таго часу параўнальна высокі, але ён далёка не адпавядаў размаху прац, якія стаялі перад намі. І толькі дзякуючы высокай арганізаванасці, самаахвярнай працы і адвазе асабовага складу і вялікаму вопыту начальнікаў нашы слаўныя дарожнікі з гонарам выканалі заданні, пастаўленыя камандаваннем.

Яшчэ цяжэйшыя заданні ўзніклі перад ваеннымі чыгуначнікамі. Калі будаўнікі аўтадарог маглі ў якасці часовай меры будаваць нізкаводныя зборна-разборныя масты і забяспечваць пропуск войск і баявой тэхнікі, не адстаючы ад тэмпа войск, дык да чыгуначных мастоў ставіліся ў часе вайны амаль такія ж патрабаванні, як у мірны час.

Як толькі мы ўступілі на тэрыторыю Польшчы, перад камандаваннем фронту ўзнікла пытанне: ці перашываць польскія чыгуначныя дарогі на саюзную, г. зн. прынятую ў Савецкім Саюзе калею (1524 міліметры), ці пакінуць іх на заходнееўрапейскай калеі (1435 міліметраў).

(Працяг на стар. 6)

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ДА ГЭТАГА ПРЫЗНАЮЦЦА...

Паводле афіцыяльнай статыстыкі амерыканскага камандавання ў Сайгоне, на працягу 1969 года ў Паўднёвым В'етнаме загінула **9.249** воінаў ЗША, **69.043** амерыканцаў паранена, а **112** салдат прызнана прапаўшымі без вестак.

За гэты ж перыяд, паводле звестак амерыканцаў, узброеныя сілы ЗША ў Паўднёвым В'етнаме страцілі **70** самалётаў, якія былі збіты зяніткамі нацыянальна-вызваленчай арміі, а **400** іншых самалётаў было знішчана на зямлі або ў часе катастрофаў. Збіты таксама **463** верталёты ЗША, а **567** знішчана на зямлі.

### ... АБ ГЭТЫМ МАЎЧАЦЬ

Камюніке камандавання нацыянальна-вызваленчых узброеных сіл Паўднёвага В'етнама сцвярджае, што ў 1969 годзе патрыятычныя сілы, паводле няпоўных даных, забілі, паранілі або ўзялі ў палон **645 тыс.** воінаў ворага.

Апрача таго нацыянальна-вызваленчая армія збіла або знішчыла на зямлі **6.400** самалётаў і верталётаў розных тыпаў, знішчыла **19 тыс.** ваенных сродкаў транспарту, у тым ліку амаль **10 тыс.** танкаў і бронесамаходаў, **2500** гармат і мінамётаў, затапіла або падпаліла **1.700** суднаў ці кацераў, спаліла **900** складаў боепрыпасаў і паліва.

### РАТЫФІКАЦЫЯ

Лік дзяржаў, якія ратыфікавалі Дагавор аб нераспаўсюджванні тэрмаядзернай зброі, павялічыўся ў 1969 г. з 5 да 25. Сярод іх знаходзяцца тры вялікія дзяржавы: СССР, ЗША і Вялікабрытанія, без іх ратыфікацыі Дагавор увогуле не мог бы быць ажыццёўлены.

У канцы 1969 года пад Дагаворам сталі подпісы 93 дзяржаў.

### МІЛЬЁННАЯ АРМІЯ

Прэзідэнт Насер, выступаючы на мітынгу ў сталіцы Судана, Хартуме, апавясціў утварэнне мільённай арабскай арміі для барацьбы з ізраільскім агрэсарам. Зараз ёсць гатовых да барацьбы больш 500 тыс. арабскіх воінаў.

### ВЫКРАДЗЕНЫЯ КАЦЕРЫ

5 французскіх кацераў, якія былі выкрадзены пры дапамозе ізраільскай разведкі з французскага порта Шэрбург, ужо знаходзяцца ў ізраільскім порце Гайфа.

У сувязі з гэтай афёрай Савет Міністраў Францыі часова зняў з пасады двух генералаў, а таксама пастанавіў адклікаць тых членаў дыпламатычнага прадстаўніцтва Ізраіля, якія ад імя ізраільскага ўрада прымалі ўдзел у маніпуляцыях, маючых на мэце выкраданне кацераў.

Кацеры былі пабудаваны французскімі прадпрыемствамі па заказу Ізраіля. Аднак пасля налажэння дэГолем эмбарга на продаж якой-небудзь зброі Ізраілю, гэтыя кацеры засталіся ў порце Шэрбург да моманту іх пакражы.

Рашэнне французскага ўрада яшчэ раз пацвердзіла слушную палітыку, якую вядзе Францыя ад пачатку блізкаўсходняга крызісу.

А. К.



## БССР

### СЁМАЯ

Адбылася сёмая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР сёмага склікання.

Зацверджаны бюджэт Беларусі на 1970 год па даходах і расходах у суме 2 553 406 тысяч рублёў. Асігнаванні на ўтрыманне органаў дзяржаўнай улады, органаў дзяржаўнага кіравання і суда — 50.261 тысяча рублёў. Найбольшы ўдзел у бюджэце мае Гомельская вобласць з высокаразвітай прамысловасцю. Далей — Мінская і Віцебская вобласці.

Прыняты закон аб ахове помнікаў культуры Беларусі. Яны ... „знаходзяцца на ўліку і ахоўваюцца дзяржавай". Да гэтага абавязаны ўсе органы ўлады і ўсе грамадзяне. Перамяшчэнне або вываз за межы Беларусі яе помнікаў культуры можа адбыцца толькі ў парадку, устаноўленым Саветам Міністраў БССР.

### ПЕРШЫ

Першы энергаблок Лукомльскай ДРЭС уведзены ў эксплуатацыю. Лукомльская ДРЭС называецца флагманам энергетыкі Беларусі.

З выпадку пуску першага энергаблоку адбылася ўрачыстасць, у якой удзельнічалі члены палітычнага і дзяржаўнага кіраўніцтва рэспублікі.

### МАЗАЛЬКОЎ

Памёр Яўгені Мазалькоў, таленавіты беларускі літаратуразнавец і перакладчык. З'яўляўся ён старшынёю Савета па беларускай літаратуры пісьменнікаў СССР у Маскве.

Я. Мазалькоў дзейнічаў на ніве ўмацавання дружбы паміж рускай і беларускай літаратурамі.

### ЗВАРОТ

Цэнтральны Камітэт камсамола Беларусі апублікаваў зварот да камсамолак і камсамольцаў, да ўсёй сельскай моладзі — «Руку, таварыш тэхніка!».

У звароце падкрэсліваецца патрэба разгортвання руху моладзі за авалоданне сельскімі тэхнічнымі прафесіямі.

### ВЕНГЕРСКІХ

Беларусь наведала дэлегацыя Саюза венгерскіх партызан на чале з генеральным сакратаром Дзьюла Уста. Венгерскія сябры азнаёміліся з выдатнымі мясцінамі беларускай сталіцы, пабывалі на братніх магілах і агледзелі помнікі ахвярам фашызму ў Маскюкоўшчыне і Трасцянцы. Пабывалі яны ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

### АДБЫЛАСЯ

У Гродне адбылася нарада-семінар работнікаў газет Эстоніі, Латвіі, Літвы і Беларусі, якія пішуць на сельскагаспадарчую тэматыку. Удзельнікаў вітаў сакратар Гродзенскага абласнога камітэта КП Беларусі Аляксандр Ульяновіч.

Удзельнікі нарады-семінара наведалі калгас «Прагрэс» на Гродзеншчыне.

### ГЕРМАНАЎ

Беларусь наведаў вядомы балгарскі паэт і перакладчык Андрэй Германаў. Ён адзін з самых актыўных і таленавітых перакладчыкаў беларускай паэзіі на балгарскую мову. У яго перакладах выходзілі творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Пятруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка і іншых.

(ся)



## ПОЛЬШЧА

### НАВАГОДНІ ТОСТ

У час навагодняга балю ў Доме партыі ў Варшаве з навагоднім тостам выступіў І сакратар партыі Уладзіслаў Гамулка, які сказаў:

«1969 год ужо за намі, адыйшоў у беспаваротнае мінулае. Увайшлі мы ў новы — 1970 год. З'яўляецца ён для ўсіх нас таямнічай кнігай, што налічвае 365 чыстых старонак, якія маем запісаць зместам свайго жыцця».

Прамоўца склаў падзяку ўсім людзям працы за ахвярнае выконванне сваіх абавязкаў у мінулым годзе, а таксама пажаданні на 1970 год.

«Сярод навагодніх пажаданняў, — сказаў тав. У. Гамулка, — якія мы сёння складаем адзін другому, першае месца займае нашае гарачае жаданне, каб пачынаючыйся 1970 год прынёс нам і ўсяму чалавецтву ўмацаванне міру, каб стаўся годам заканчэння амерыканскай агрэсіі ў В'етнаме і патушэння небяспечнага ачага вайны на Блізкім Усходзе, каб пракладала сабе пераможна дарогу нашая ідэя мірнага суіснавання ўсіх дзяржаў і мірнага сужыцця народаў».

### НАВАГОДНІЯ ПАЖАДАННІ

З нагоды Новага года з пажаданнямі для ўсяго народа выступіў Старшыня Рады Дзяржавы Мар'ян Спыхальскі.

«Уваходзім у новы год, — сказаў тав. М. Спыхальскі, — з пачуццём патрыятычнай адказнасці за справы краіны. Па меры таго, як сацыялістычнае развіццё Польшчы прыносіць нам штораз больш матэрыяльнага і духовага багацця, пацвярджаецца гістарычная важнасць грамадскіх перамен, якія адбыліся ў нашай Айчыне 25 гадаў таму назад, важнасць нашага павароту на Одру і Нысу. З году ў год усё больш выразнай з'яўляецца найважнейшае дасягненне новай эпохі гісторыі — кансалідацыя народу, усіх грамадзян, партыйных і беспартыйных веруючых і няверуючых — на грунце ідэйных прынцыпаў Народнай Польшчы».

«Складаю вам, дарагія грамадзяне, найбольш гарачыя навагоднія пажаданні. Хай поспехі ўсяго народа ідуць у руку з вашымі асабістымі поспехамі, хай радасць і шчасце госцяць у вашых дамах і сем'ях».

### КРЫХУ СТАТЫСТЫКІ

Прадстаўнік ГУС-у падаў, што на Новы год насельніцтва Польшчы налічвала каля 32,7 мільёнаў асоб. У Дзень Новага года нарадзілася каля 1400 дзяцей. На працягу мінулага года насельніцтва Польшчы ўзрасло амаль на 244 тысячы, натуральны прырост дасягнуў каля 8,3 проміля. Наступіў узрост колькасці шлюбаў і колькасці скананняў.

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ МАШЫНЫ

У 1969 годзе прададзена на 14 мільярдаў злотых сельскагаспадарчых машын і прылад, гэта значыць, на адзін мільярд злотых больш, чымсьці ў папярэднім годзе. Сельская гаспадарка атрымала каля 30 тысяч новых трактараў (каля 4 тысяч больш, чымсьці ў папярэднім годзе).

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### ГРАМАДСКІ КАНТРОЛЬ

Ад пяці год прафсаюзы вядуць грамадскі кантроль у працы гандлёвых устаноў. Зараз у ваяводстве дзейнічае амаль паўтары тысячы грамадскіх кантралёраў, якія ўжо звыш 20 тысяч раз кантралявалі розныя крамы і ў многіх выпадках выяўлялі недахопы ў іх працы.

### КОНКУРС

У Банях Мазурскіх мясцовы аддзел Украінскага грамадска-культурнага таварыства супольна з кіраўніцтвам грамадскага цэнтра культуры наладзіў дэкламатарскі конкурс. Конкурс быў прысвечаны 25-цігоддзю ПНР. Удзел у ім прыняла школьная моладзь.

### ПЕРШЫ

Беластоцкі шклозавод , як першы сярод 50-ці прадпрыемстваў хімічнай прамысловасці, выканаў датэрмінова свой план за 1969 год. Беластоцкі шклозавод пастаянна разбудоўваюць. У ліпені г. г. пачне выпускаць прадукцыю новы цэх гэтага завода, які будзе рабіць шкло для асвятлення.

### ХУТАРЫ

Геадэзійная служба Беластоцкага ваяводства плануе ліквідаваць цераспалосіцу на тэрыторыі Беласточчыны да 1975 года. У сувязі з гэтым у 1970 годзе амаль 70 тысяч гаспадароў атрымае хутары.

### ЗІМА І ГАРЦЭРЫ

У Бельскім павеце гарцэры спаборнічаюць за выкананне грамадскім чынам самага лепшага катка для зімовых гульняў. У Дуброўскім павеце гарцэры апекуюцца палявымі птушкамі і ляснымі звярамі, дапамагаюць ім перажыць лютую зіму. У час зімовых канікулаў 300 гарцэрскіх інструктараў адпачывала ў лагерах.

### У НАВАГОДНЮЮ НОЧ

У першай радзільнай клініцы ў Беластоку ў навагоднюю ноч нарадзілася 11 дзяцей. Першым была дзяўчынка, бацькі якой жывуць у вёсцы Сабалева, Беластоцкага павета.

### 50 ГОД

Марыянна і Станіслаў Валяноўскія з вёскі Езёрка ў Ломжынскім павеце пражылі супольна ўжо 50 год. З нагоды гэтага знамянальнага юбілею Рада Дзяржавы прызнала ім спецыяльныя медалі. Прадстаўнікі ўлад жадалі Валяноўскім далейшага шчаслівага жыцця.

### НАЙБОЛЬШ ПАПУЛЯРНЫ

У выніку плебісцыту найбольш папулярным акцёрам Беласточчыны аказаўся Генрык Длужынскі. З'яўляецца ён таксама лаўрэатам прэміі ВРН і пераможцам конкурсу «Бліжэй тэатра».

### УРАЧЫСТАЕ РАЗВІТАННЕ

Калектыў прадпрыемства водаправодаў і каналізацыі ў Беластоку ўрачыста развітаўся са сваім дырэктарам Пілапам Кізевічам, які пасля 16-ці год працы на пасадзе дырэктара адыйшоў на пенсію. Піліп Кізевіч быў таксама актывістам БГКТ.

(вр)




**Niedziela 11. I.**

7.55 Program dnia; 8.00 TV Kurs Rolniczy: „Intensywny tucz mięsny"; 8.35 „Przypominamy, radzimy"; 8.45 Dla młodych widzów: „Czterej pancerni i pies" — film TVP; 10.00 Dla młodych widzów: „Mali ludzie, wielcy ludzie" (Berlin); 11.05 „Prospekt Kalinina" (Moskwa); 11.35 „Występ Zespołu „Kamionka" — program regionalny; 12.10 Dziennik; 12.20 „Przemiany"; 12.50 „Cecylia — lekarka wiejska" — film; 13.15 Dla dzieci: „Szopka' — widowisko Państw. Teatru Lalek w Lublinie; 14.10 Międzynarodowe zawody skoków narciarskich (Liberec); 15.10 „Przygody Pana Michała" — film TVP; 15.40 „Piórkiem i węglem"; 16.00 „Spotkanie z pisarzem" — Michał Rusinek; 16.30 „Zapraszamy na pół czarnej" — program estradowy; 17.30 PKF; 17.40 „Fra Diavolo"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Lot nr 6" — film fab. USA; 21.30 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek 12. I.**

14.25 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka; 15.20 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec"; 17.40 „Echo stadionu"; 17.55 „Historia instrumentów muzycznych" — film rum. 18.10 „Sylwetki X Muzy" — Paweł Komorowski; 18.45 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik 19.55 Program Red. Wojskowej; 20.25 Teatr TV: T. Rittner — „W małym domku" 22.05 „Śpiewa Józef Szimandi" — program film.; 22.50 Dziennik.

**Wtorek 13. I.**

9.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — J. Kochanowski „Odprawa posłów greckich"; 10.25 „Ktokolwiek wie" — film fab. pol.; 12.00 „Wybieramy zawód"; 12.20 Przerwa; 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Nawozy sztuczne"; 13.15 Przerwa; 14.25 i 22.30 Politechnika TV I roku. Matematyka; 15.20 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.30 Transmisja z I-go dnia Turnieju Koszykówki o Puchar Warszawy; 19.00 „Polowanie na dziki" — program TV NRD; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Ktokolwiek wie" — film fab. pol.; 21.40 „Panorama Literacka"; 22.10 Dziennik.

**Środa 14. I.**

9.00 „Ścigany" — film; 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „O wolność ojczyzny i ludu"; 10.35 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Naczynia połączone"; 12.25 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Szkolimy fachowców"; 13.15 Przerwa; 14.25 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla dzieci: „Kino Bolka i Lolka" — IV wieczór filmów; 17.15 „Śladami Lenina" (Leningrad); 17.40 TV Kurier Warszawski; 17.55 Magazyn ITP; 18.10 „Wyprawy" — film; 18.35 „Spacery Warszawskie"; 19.20 Dobranoc ;19.30 Dziennik; 20.05 „Ścigany' '— film; 20.55 „Światowid"; 21.25 PKF; 21.35 Recital śpiewaczy Ryszarda Tarasewicza; 22.05 Dziennik.

**Czwartek 15. I.**

8.15 „Matematyka w szkole": „Granica ciągu" cz. II; 8.45 Przerwa; 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Język polski — B. Prus — „Anielka"; 10.25 Przerwa; 12.45 i 13.55 Mechanizacja Rolnictwa: „Mechanizacja upraw międzyrzędowych"; 13.15 Przerwa; 14.25 i 22.35 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem"; 17.55 TV Kurier Kielecki; 18.10 „Czwarta zmiana"; 18.40 „Giełda piosenki"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr Kobra: Cedric Sheriff — „Powrót o siódmej"; 21.05 „Ludwik van Beethoven" — program monograficzny na otwarcie Światowego Roku Beethovenowskiego; 21.35 „Rozmowy o książkach"; 21.50 „Kwestia sumienia" — film TVP; 22.15 Dziennik.

**Piątek 16. I.**

9.25 „Wiosna we wrześniu" — film fab. czechosł.; 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Zwiedzamy elektrownię"; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie plastyczne — „Plakat"; 12.25 Przerwa; 14.25 i 22.35 Politechnika TV I roku. Matematyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: Reportaż TV; 17.40 TV Kurier Mazowiecki; 17.55 „Tobie Warszawo" — Uroczysty koncert z okazji 25-lecia Wyzwolenia Warszawy. Transmisja z Sali Kongresowej PKiN; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Smak zemsty" — film TVP („Przygody pana Michała"). 20.35 Program publ.; 21.05 Nowela filmowa; 21.35 Konkurs skoków narciarskich o Puchar Beskidów w Szczyrku; 22.25 Dziennik.

**Sobota 17. I.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Ameryka Południowa"; 10.25 „Przygoda na Mariensztacie" — film fab. pol.; 11.35 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Układ krwionośny"; 13.15 Przerwa; 14.20 Program dnia; 14.25 TV Kurs Rolniczy: „Rasy bydła w Polsce"; 15.00 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 15.10 Program tygodnia; 15.30 Pierwszy finał Turnieju koszykówki o Puchar Warszawy; 17.00 Dziennik; 17.10 Dla dzieci: J. Wiłkowski — „Geografia bajki" („Dzięcielinek i Świerzopski"); 18.00 „Warszawskie świtanie" — program z okazji 25-lecia Wyzwolenia Warszawy; 18.30 „Pegaz"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.20 „Z wizytą u Was" — program rozrywkowy; 21.30 Dziennik; 21.50 „Przygoda na Mariensztacie" — film fab. pol.




**Piątek, 9 stycznia**

8.05 „Nowiny"; 8.15 „Czterej pancerni i pies"; 9.45 Spektakl teatru lalek; 10.45 „Gdzie żył Lenin"; 11.15 „Nowiny"; 15.15 Koncert laureatów wszechzwiązkowego festiwalu twórczości amatorskiej; 16.00 „Panorama nowin"; 16.30 TV almanach; 17.00 „W. Lenin. Kronika życia i działalności"; 18.00 Sztafeta nowin; 18.50 „Dziewczyna z charakterem" film fab.; 20.45 Program estradowy; 21.55 „Nowiny".

**Sobota, 10 stycznia**

8.15 Program muzyczny; 8.45 TV barwna; 9.15 „Nowator"; 9.45 „Szkatułka muzyczna"; 10.00 Dla uczniów; 10.30 Przegląd międzynarodowy; 10.45 Filmy animowane dla dzieci; 11.30 TV barwna; 12.30 TV uniwersytet ludowy; 14.00 „Kronika półwiecza". Rok 1918; 15.00 Noworoczne przedstawienie; 16.00 Przegląd tygodnia; 16.30 „Włodarze bez masek"; 17.00 W eterze „Młodość"; 17.55 TV barwna; 19.30 „Świat socjalizmu"; 21.00 Melodie przyjaźni"; 22.00 „Nowiny".

**Niedziela, 11 stycznia**

8.00 „Kiosk muzyczny"; 8.30 Dla uczniów; 9.00 Finał kosmicznej olimpiady; 10.30 „Białe i czarne"; 11.00 Dla żołnierzy; 12.00 Program estońskiej TV; 17.30 TV barwna; 18.40 „Nowiny"; 18.45 „Siedem dni"; 19.30 „Było im osiemnaście". Film fab.

 

# Усім прафесію

Ад пэўнага часу шмат месца ў дзейнасці Саюза вясковай моладзі займае акцыя «Усе вучымся прафесіі». Хачу засцерагчыся, што слова «акцыя» ў даным выпадку мне не падабаецца. Лічу, што **дапамагчы здабыць прафесію — адно з важнейшых заданняў маладзёжнай арганізацыі на вёсцы,** а не толькі акцыя.

Заданне для ЗМВ-оўскай арганізацыі ў пэўнай меры і не новае. Толькі ў 1969 годзе пад кірункам ЗМВ працавалі ў ваяводстве 962 калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (ПР), якія аб'адноўвалі 11 441 удзельнікаў. Як прыклад іх актыўнай працы можа быць і той факт, што ў 1968/69 гадах ПР-ы арганізавалі 28 тысяч даследчых участкаў і конкурсаў. Нельга не напомніць, што ўсе яны былі прыкладам адпаведнага, згоднага з патрабаваннямі сельскагаспадарчай навукі, гаспадаравання.

Жыццё аднак дыктуе больш аб'ёмістыя патрэбы... Вось для прыкладу Бельскі павет. Нягледзячы на аптымістычныя дадзеныя, пасля 25 год існавання абавязковай пачатковай школы 708 маладых людзей (17—30 год) не мае закончанай пачатковай адукацыі. Аддзел асветы супольна з ЗМВ пачаў арганізаваць курсы, даючы гэтым магчымасць закончыць пачатковую школу. Аказалася, што арганізавана 14 такіх курсаў, а запісалася туды толькі 213 чалавек. Ды і ці заўсёды гэта тыя маладыя 17—30-годкі?

На вёсках Бельскага павета налічваецца зараз больш, чым **дзве тысячы маладых людзей** з закончанай пачатковай адукацыяй, а 736 — гэта абсальвенты ПР, СПР, ПС (пшыспособене спулдзельчэ) і ЗСР. Згодна з праведзеным распазнаннем, на гаспадарках астаецца больш 2300 чалавек. З гэтага ліку каля двухсот чалавек намерана вучыцца завочна ў Сельскагаспадарчых тэхнікумах.

Правёўшы нават найпрасцейшыя матэматычныя дзеянні на вышэй прыведзеных ліках, лёгка дайсці да вываду, што заданне для бельскай арганізацыі ЗМВ і для яе саюзнікаў — велізарнае і мае многа напрамкаў. Першы напрамак — гэта зрабіць усё, каб усе маладыя, здаровыя людзі мелі закончаную пачатковую школу. Другі напрамак — гэта справа вучобы на гаспадароў. Тут я бачыў бы не столькі прымяненне новых спосабаў, колькі пашырэнне дагэтуль існуючых, т. зн. ПР, ПС, СПР.

Непакояць мяне іншыя справы, справы, звязаныя з лозунгам «Усе вучымся прафесіі». У праграмах некаторых павятовых праўленняў ЗМВ завужана справа толькі да прафесіі гаспадара і трактарыста. Чаму? Лічу, што сучасны гаспадар без каваля, слёсара — гэта таксама дрэнны гаспадар. А справа будаўляных рамеснікаў, краўцоў, электрыкаў, праводзячых рамонт радыё і тэлевізараў ці матацыклаў? Без іх усіх сучасны гаспадар не зможа добра гаспадарыць. На маю думку, ЗМВ павінна і гэтыя прафесіі ўключыць да сваёй дзейнасці. Разумею цяжкасці. Але справу можна распачаць, напрыклад, ад грамадскіх рад нарадовых, якія ведаюць аб недахопах рамеснікаў. Зацікаўленаму хлопцу ці дзяўчыне трэба паказаць магчымасці атрымання данай прафесіі, а таксама дапамагчы, напрыклад, адкрыць майстэрню. Несумненна, неабходным тут бачу супрацоўніцтва і з вясковай спулдзельчасцю, і з сельскагаспадарчымі гурткамі, і з камісіяй гаспадарчага планавання.

Калі пасеем зерні паасобых прафесій у розных раёнах павета, дык тады, напэўна, лягчэй будзе выканаць заданне — усе вучымся прафесіі. У гэтым напрамку трэба разгарнуць шырокую працу, тым больш, што нашая вёска застаецца зусім без рамеснікаў.

Чаго малавата? Чытаю многія пісьмы ў рэдакцыю ад маладых людзей з вёсак. Пытаюць аб справах, на якія, на маю думку, павінен умець адказаць кожны член праўлення гуртка ЗМВ. Пытанні бываюць такога тыпу: «Напішыце, як можна стаць трактарыстам?», «Хачу быць краўчыхай», «Дзе можна вучыцца на электрыка?», «Не хачу кідаць вёскі, але хачу быць слёсарам» і гд.

Мне здаецца, добрая інфармацыя арганізацыі ЗМВ можа не толькі дапамагчы хлопцам і дзяўчатам атрымаць прафесію, але прынясе непасрэдную і хуткую карысць нашай сельскай гаспадарцы.

**А. К.**

# Шанцы самасцверджання

Беларусы як этнічная меншасць у межах Народнай Польшчы ўсё яшчэ не знаходзяць свайго культурнага самасцверджання. Усё яшчэ аб беларусах у Польшчы мала хто ведае па-за межамі Беластоцкага ваяводства, а і ў рамках ваяводства веды гэтыя вельмі мутныя. Усё яшчэ беларускае паходжанне з'яўляецца справай «сарамлівай» для беларуса. Справа паказання ўласных культурных вартасцей «усяму свету», прызнання іх у грамадстве — гэта справа не толькі этнічнай групы як такой у цэласці, але і кожнага беларуса паасобна. Бо ад гэтага прызнання залежыць у вялікай ступені пачуццё задавальнення і ўпэўненасці ў жыцці, пачуццё ўласнай поўнавартасці.

Шанцамі такога прызнання нашых культурных вартасцей з'яўляецца перш за ўсё фальклор. Жывем у такой сітуацыі, калі ва ўсім свеце назіраецца ўзрастаючае зацікаўленне фальклорам, а асабліва песенным фальклорам, і выкарыстоўванне яго ў сучаснай лёгкай музыцы. З другога ж боку назіраецца знікание з паверхні зямлі рэштак самабытнага фальклору.

Песенны фальклор беларусаў Беласточчыны цікавы і разнастайны. Наднёманская Беларусь крыжавалася тут з уплывамі палескімі, паўночна-ўкраінскімі, рускімі і польскімі. Захавалася шэраг элементаў першабытных, старых, архаічных. Усё гэта можа зацікавіць не толькі даследчыкаў, фалькларыстаў, але можа быць з поспехам выкарыстана як арыгінальны музычны элемент на эстрадзе.

Трэба сказаць шчыра, што беларуская эстрада «Лявоніха» не зрабіла ў гэтым напрамку нічога. Можна сказаць нават больш — вынікі яе дзейнасці былі адваротнымі ад мэт, пастаўленых у пачатку артыкула. Гледачы любілі «Лявоніху», але слухаючы яе, маглі толькі пацвердзіць перакананне, што беларуская песня значна горшая, слабейшая ад украінскай, рускай, ці польскай. У супастаўленні з гэтымі апошнімі песнямі, якія выконвала тая ж «Лявоніха», беларуская песня гучыць сапраўды вяла і мала цікава.

Прычынай гэтага з'яўляецца абсалютнае адарванне рэпертуару «Лявоніхі» ад жывога, мясцовага фальклору. Народныя песні, апрацаваныя ў Мінску і выкарыстаныя ў нас, — гэта ўжо далёкі адгалосак гэтага жывога фальклору. У акадэміцкай, па-вучонаму правільнай апрацоўцы знікае ўсё, што можа захапіць сённяшняга нашага слухача: арыгінальнасць інтэрпрэтацыі, стыхійнасць песні, яе самабытнасць і непаўторнасць. Асабліва важкае гэта ў нас, у Польшчы, дзе ўжо шэраг год папулярызуецца стыль «біг-бітнай» лёгкай музыкі, які прытупіў нашую ўражлівасць на меладыйную правільнасць песні, але выастрыў уражлівасць на яе дынамізм, яе рытміку і эмацыянальны ўдзел выканаўцаў.

Хацелася б мець надзею, што сітуацыя ў гэтай галіне палепшыцца ў бліжэйшы час. Прапанова ў гэтым напрамку ставілася, між іншым, існуючымі пры Галоўным праўленні БГКТ камісіяй культуры і этнаграфічнай камісіяй. На этнаграфічнай камісіі была высунута прапанова прыступіць да больш арганізаванага збірання этнаграфічнага матэрыялу пры дапамозе сучасных тэхнічных сродкаў, як магнетафоны і фотаапараты, а таксама прапанова — стварыць цэнтр беларускай этнаграфічнай дакументацыі. Цэнтрам такім павінен стацца Этнаграфічны музей у Белавежы. Збіраў бы ён даступнымі сродкамі фальклорны і этнаграфічны матэрыял з усёй Беласточчыны, а адначасова вёў бы спіскі ўсіх этнаграфічных матэрыялаў, якія знаходзяцца ў розных навуковых інстытутах і музеях краіны. Калі б удалося такі этнаграфічны цэнтр, на базе этнаграфічнага музея ў Белавежы, давесці да парадку, роля яго магла б быць велізарнай. Дапамагаў бы ён усім зацікаўленым беларускасцю ў Польшчы этнографам і фалькларыстам, перахоўваў бы скарбы народнай культуры для будучых пакаленняў, а адначасова можна было б выкарыстоўваць сабраныя матэрыялы для выдавецкай і эстраднай працы.

**Ул. Паўлючук**

*Пачатак на стар. 1*

# Гайнаўскія амбіцыі

такты горада з вёскай, асабліва што і вёска ва ўсіх напрамках даганяе горад.

У дыскусіі былі галасы за пенетрацыяй рабочых асяроддзяў Гайнаўкі, за стварэннем там гурткоў Беларускага таварыства. Людзі падавалі прыклады, што групы тут існуюць неафіцыйна, групы, якіх яднае ці то своеасаблівасць абычаяў, ці рэвалюцыйнае мінулае Гайнаўскага павета.

### ДЗВЕ ТАЯМНІЦЫ ГАЙНАЎСКАГА АДДЗЕЛА БГКТ

Першай з'яўляецца лік гайнаўскіх (у справаздачы было сказана, «нашых гайнаўскіх») актывістаў. Лік гэты не толькі вялікі, але пастаянна расце. Актывісты глыбока заангажаваны і ахвярны. Нашы актывісты ездзілі туды, дзе не даязджаюць іншыя, туды, дзе яшчэ вельмі рэдка праводзяцца якія-небудзь культурныя мерапрыемствы. Святкуючы наш вялікі юбілей у мінулым годзе — 25-годдзе ПНР, мы перажывалі яго з усімі. Сярод грамадскіх арганізацый павета, наша арганізацыя прыняла найбольшы ўдзел у гэтым свяце».

На конта гайнаўскага аддзела запісалася з выпадку 25-цігоддзя 46 дакладаў, 34 фотавыстаўкі, 17 вечарніц розных форм, два фэстыны, 49 рабочых сустрэч гайнаўскага актыву з гурткамі, грамадскія чыны ў Чыжах, Палічнай, Дубічах Царкоўных...

Другая таямніца называецца супрацоўніцтвам з усімі палітычнымі і грамадскімі арганізацыямі ў павеце: павятовым камітэтам партыі, аддзелам асветы і культуры, павятовым праўленнем ЗМВ, са школамі. З беларускага актыву аддзела выводзяцца галоўныя дзеячы і актывісты ўсяго Гайнаўскага павета. Бо такая наша праўда, кажуць тут: адзін не зробіць таго, што зробяць 50.

* * *

Дыскусія была дзелавая. Канцэнтравалася на справе гурткоў: як рабіць, каб ажывіць працу існуючых гурткоў?

Людзі задумваліся таксама, чаму няма гурткоў БГКТ у такіх мясцовасцях, як Белавежа ці Кляшчэлі? Беларускія ж гэта асяроддзі? А Белавежа нават з вялікімі традыцыямі слаўнага беларускага хору, які ўсюды здабываў вялікае прызнанне.

Вялікую і рэальную ролю гурткоў у культурнай дзейнасці БГКТ бачыць сакратар павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы Мікалай Самоцік (таксама член ГП БГКТ). Гэта: збіранне экспанатаў у музей, збіранне і запісванне пагаворак, песень, звычаяў, розных здарэнняў з гісторыі вёскі, успамінаў людзей; праца з «Нівай» — што яна дае, чаго трэба, яе ацэнка і папулярызацыя; чытанне беларускіх кніжак — вечары чытання.

Новы год, як і ўсюды, стаіць пад знакам сотай Ленінскай гадавіны. Гайнаўскі аддзел прывёў сваю багатую праграму святкавання яе. Летам прапануе арганізаванне ленінскага фэстына — формы, якая ў гайнаўскім аддзеле выходзіць вельмі добра. З цікавейшых прапаноў яшчэ: конкурс у школах «Што ведаю пра Леніна?» Плён конкурсу будзе матэрыялам на ўнікальны нумар «Зоркі».

* * *

Раз'ехаліся і разышліся гайнаўскія актывісты ў свае вёскі і ў свае хаты. Ведаюць, што падвясці не могуць. Ведаюць, што перад імі вялікая заданні, большыя чым дагэтуль. Ацэнка на гайнаўскай канферэнцыі гэтых людзей была такая: людзі добра выхаваныя ў сэнсе грамадскіх абавязкаў; маюць высокае пачуццё заданняў і свайго ўласнага прыкладу; у такіх людзей верыць трэба.

**Вера Леўчук**



Барысаўка. Фота Ул. Паўлючук.

# Што можа моладзь

Дзе моладзь, там бадзёрасць, там ініцыятыва. А ініцыятыва ўсюды патрэбная. Асабліва на вёсцы яе не замнога. Дык якая ж гэта наша моладзь на вёсцы ў Беластоцкім ваяводстве? Чым яна займаецца, што яе хвалюе?

На Беласточчыне амаль 52 тысячы хлопцаў і дзяўчат аб'ядноўвае Саюз вясковай моладзі, які мае амбіцыю прадстаўляць усю вясковую моладзь. Кіруючыся пачуццём гаспадара краіны і ўсведамляючы свой грамадскі абавязак, члены ЗМВ-у ўключаюцца ва ўсе палітычныя кампаніі, якія праводзяцца ПАРП. У час сакавіцкіх выпадкаў у 1968 годзе ЗМВ Беласточчыны на сходах, канферэнцыях, нарадах і маніфестацыях накіраваў на адрас ЦК ПАРП сотні рэзалюцый, якія сведчылі аб падтрымцы палітыкі партыі і ўрада. У час кампаніі перад V з'ездам ПАРП, моладзь ЗМВ-у актыўна ўключалася да папулярызацыі тэзісаў, а пасля пастаноў — з'езда. У днях V з'езда адбываліся спатканні з партыйнымі дзеячамі, і ЗМВ урачыста перадаў найлепшых сваіх членаў у рады ПАРП. Члены ЗМВ масава таксама ўдзельнічалі ў рэалізацыі абавязацельстваў, прынятых у гонар V з'езда. Аб актыўнасці ваяводскай арганізацыі ЗМВ сведчыць могуць наступныя лікі: У 1968 годзе, напрыклад, у рады ПАРП было прынята 1497 членаў ЗМВ. На працягу года ў грамадскіх чынах прыняло ўдзел 1947 гурткоў ЗМВ-у, гэта значыць 42500 членаў, якія выканалі працы на 8 965 000 зл.

У 1969 годзе шырока адзначалася 25-годдзе існавання народнай улады ў нашай краіне. Першае паўгоддзе праходзіла пад знакам падрыхтоўкі да выбараў у Сейм і рады нарадовыя. Асабліва цікавымі былі: «Дзень маладога выбаршчыка» і акцыя сустрэч пад лозунгам: «Букет кветак для будаўнікоў Народнай Польшчы і іх сем'яў». Гэтая апошняя акцыя мела на ўвазе сустрэчы з людзьмі 25-годдзя. У ёй удзельнічалі 452 гурткі ЗМВ-у, члены якіх уручылі кветкі 890 заслужаным асобам.

У 1969 годзе працягваліся далей дзве акцыі: «Вясна чынаў» і «Кожны колас на вагу золата», у якіх высілкам 39 800 членаў выпрацавана 5,6 млн. зл.

У перыяд зімовага карнавалу ў 1968 і 1969 гадах гурткі ЗМВ-у масава арганізавалі безалкагольныя танцавальныя вечарыны і кулігі. У ваяводстве кулігаў адбылося 862, а безалкагольных забаў — 722.

Сярод розных напрамкаў дзейнасці ЗМВ-у галоўнае месца займае сельскагаспадарчая асвета, якая арганізуецца пры дапамозе сельскагаспадарчай службы. Адной з найбольш папулярных форм з'яўляюцца калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (ПР). У суме ў гадах 1968—69 калектывы ПР мелі 28 тысяч даследчых палетак, і ўсе яны былі дэманстрацыяй належнага гаспадарання, згодна з вымогамі сучаснай агратэхнікі. Вынікі дзейнасці калектываў ПР даволі добрыя. Аб значэнні іх на Беласточчыне сведчыць 15 750 выпускнікоў, большасць з якіх працуе на гаспадарках. Выпускнікі ПР-аў займаюць адказныя функцыі ў сельскагаспадарчых гуртках. 103 асобы працуюць на пасадзе прэзасаў і рахункаводаў, а 317 асоб з'яўляюцца трактарыстамі. З мэтай актывізацыі самастойна гаспадаруючых маладых сялян у галіне павелічэння прадукцыі збожжа ЗМВ арганізаваў конкурс на «Маладога майстра ураджаяў».

У ім прыняло ўдзел 800 маладых гаспадароў. Некаторыя ўдзельнікі конкурсу атрымалі больш 30 цэнтнераў усіх чатырох асноўных зерневых культур з аднаго га, а Ян Крашэўскі з Замброўскага павета — 34,8 цэнтнераў.

Павелічэнню збожжавай прадукцыі спрыяла таксама акцыя ЗМВ-у «Больш мінеральных угнаенняў — больш збож-



 

# ТРЫБУНА чытачоў

### 20 ГАДЗІН ЗАНЯТКАЎ

У Дубічах Царкоўных нядаўна праводзіліся вайсковыя заняткі па тэрытарыяльнай абароне. На працягу трох дзён у мясцовай святліцы ўдзельнікі заняткаў вучыліся, як захоўвацца і што рабіць у выпадку вайны. Заняткі вёў начальнік мясцовай тэрытарыяльнай абароны Мікалай Чыквін.

Мікалай Панфілюк
Дубічы Царкоўныя

### ЯК РАССЯВАЦЬ УГНАЕННІ

Як рассяваць мінеральныя ўгнаенні на палях і сенажацях, колькі іх трэба ўжываць — гэтым тэмам у вёсцы Рутка (Гайнаўскі павет) прысвечаны былі лекцыі аграномаў Раісы Патаюк і Анатоля Патаюка.

М. Дубовіч
Рутка

### ГУРТОК ЗМВ У КНАРАЗАХ

Гурток ЗМВ у Кнаразах (Бельскі павет) — гэта найлепшы гурток у грамадзе Храбалы. Ён налічвае 16 членаў. Дзейнічае ўжо 2 гады. Старшынёй гуртка з'яўляецца Вера Красоўская. Члены гэтага гуртка ў час летніх канікул памагалі старому чалавеку з вёскі Кнаразы, Хведару Сіманюку, убіраць збожжа, а таксама працавалі пры рамонце святліцы, якая цяпер знаходзіцца ў школьным будынку. Яны арганізавалі таксама драматычны гурток, які не толькі выступаў у сваёй, але і ў суседніх вёсках. Цяпер яны рыхтуюць п'есу «Пінская шляхта». Дапамагае ім настаўніца Яўгенія Дамброўская.

Яўгенія Лапцяў
Кнаразы

### КУТОК ДРУЖБЫ

У чытальні Дома культуры ў Гарадку (Беластоцкі павет) прыемна выглядае куток польска-савецкай дружбы.

Зал упрыгожваюць насценгазеткі «Ідэі Леніна вечна жывыя», «Дружба і супрацоўніцтва», фотавыстаўкі на актуальныя тэмы, выстаўкі кніжак, лозунгі. У пакоі эстэтычна і ўтульна. Тут стаяць новыя столікі, крэслы, шафы і рэгалы з кніжкамі і прэсай.

Ц. Я.
Гарадок

### НЯДБАЙНАСЦЬ

Восенню пачалі будаваць жвіровую дарогу з Трасцянкі да Белак. Зрабілі яе больш кіламетра і абапал яе пасадзілі таполі. Гэтыя работы выконваў аддзел мясцовых дарог павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы. Ён нанімаў да працы рабочых, ён забяспечыў і гэтымі дрэўцамі.

Надышла зіма. Снег прыкрыў зямлю. Зайцы не маюць чаго есці, дык абгрызаюць кару на гэтых маладзенькіх таполіках. Да вясны, напэўна, дрэўцы будуць абгрызены зусім і, мусіць, яны паўсыхаюць. Усе аб гэтым ведаюць, але пакуль што нікому ў галаву не прыходзіць, каб забяспечыць гэтыя дрэўцы, каб іх выратаваць.

### СХОД ГРАМАДСКІХ АПЕКУНОЎ

16 снежня мінулага года ў грамадзе Трасцянка адбыўся сход вясковых грамадскіх апекуноў, на якім былі яны пазнаёмлены з інструкцыяй Міністэрства аховы здароўя і грамадскай апекі. Многа гаварылася аб апецы над старымі самотнымі людзьмі, якія жывуць на вёсцы. Выйшла тут праблема старых людзей, якім неабходна грашовая дапамога, але якія маюць свае гаспадаркі, хаця не маюць ужо сілы абрабляць іх. Прадстаўнік павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы Уладзімір Яконюк выясніў, што тыя старыя людзі, якія маюць гаспадаркі (і згодна з законам нельга прыдзяліць ім сталай запамогі), павінны звярнуцца да ўлад з заявай адносна перадачы зямлі дзяржаве. Тады людзі атрымаюць сталую запамогу.

Мікалай Лук'янюк
Белкі




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Мне 19 год. Жыву ў вёсцы Бельскага павета. Нядаўна я пазнаёміўся з дзяўчынай, якая працуе ў ГРН у нашай вёсцы. Яна мне вельмі спадабалася. Мы разам хадзілі на забавы ў суседнюю вёску. Апошнім разам на забаве яна танцавала з іншым хлопцам, бо ён, відаць, лепш ёй спадабаўся. Ад гэтага часу Аня не захацела са мной хадзіць. Не ведаю, што рабіць? Аня мне вельмі падабаецца, не магу проста пра яе забыць.

Парай, што рабіць, каб вярнуць Аню.

*Андруша*
*з Бельскага павета*

*Андруша!* Гэта на жаль вельмі прыкрая сітуацыя, на якую амаль няма лякарства. Сэрцу не загадаеш. Відаць, Ані лепш падабаецца той другі, і таму яна пакінула цябе. Пытаеш, што рабіць? Ну, што ж, па-мойму: знайсці іншую, а пра Аню пастарацца забыць. А мо' яшчэ Аня вернецца, бо і так часта бывае. Пачакай, толькі не паказвай перад ёю, што ты так па ёй сумуеш і чакаеш. На забаве пастарайся быць вясёлым, танцаваць з усімі дзяўчатамі (а яшчэ лепш, калі пачнеш больш усіх з адной дзяўчынай). Калі будзе аказія, папрасі да танца і Аню. Будзь вясёлым, але тактоўным. Тады пераканаешся, ці Ані твае паводзіны абыякавыя, ці пачне на цябе ўкрадкам спаглядаць. Гэта будзе табе найлепшым, беспамылковым адказам.

*Жадаю поспехаў*
*Сэрцайка*

### З НАГОДЫ 100-АЙ ГАДАВІНЫ

Праўленне гуртка БГКТ у Крывяцічах (Бельскі павет) урачыста будзе адзначаць 100-ую гадавіну з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. Апрацаваны ужо план мерапрыемстваў, якія будуць арганізавацца з нагоды гэтага юбілею.

Зараз падрыхтоўваецца фотагазетка з жыцця і дзейнасці правадыра пралетарыяту. Кіраўнік клуба-кавярні «Рух» Пятро Будко зрабіў ужо насценгазету.

Ваня Кірызюк
Крывяцічы

### ВЁСКА ЛУПЛЯНКА

Гэта было даўно.

Там, дзе цяпер знаходзіцца вёска Луплянка ў Беластоцкім павеце, раней раслі дрымучыя лясы. Над ракою Луплянкай і на шырокіх багнах вялося многа ўсялякага роду птацтва. У гэтую дзікую і недаступную ваколіцу царскія ўраднікі высылалі на ссылку катаржнікаў. На месцы, дзе цяпер вёска Луплянка, была турма. Абвінавачаных царскія чыноўнікі сяклі розгамі, мучылі.

Непадалёку ад Луплянкі, пры дарозе з Юшкавага Груда і Падазеран у Ялоўку і Свіслач, стаяла карчма. Тут праезджыя куплялі піва, квас, абаранкі. Была і гарэлка. Мясцовыя сяляне куплялі тут перш за ўсё нафту, соль і мыла.

Дамы будавалі тут нізкія, з тоўстых бярвенняў, часта з адным акном, якое выходзіла на поўдзень, з адной печкай, у якой варылі есці раз у суткі. Комін не меў, як сёння, люшкі, а затыкаўся «коркам» са скамечаных ануч.

Вазы былі драўляныя, без жалезных шын. За смар служыла смала або маслюкі, якіх у лесе было плойма. Спачатку ў школу хадзіла мала вясковых дзяцей. Потым у 1908 годзе рускі настаўнік адзін вучыў 120 асоб. У 1915 годзе ў час I сусветнай вайны жыхары ваколіц Луплянкі пераязджалі на ўсход.

У час другой сусветнай вайны, калі наступіла нямецкая акупацыя, арыштавалі найперш адну кабету, потым сям'ю солтыса, яго трох сыноў а таксама жыхара Носа і сям'ю Новікаў. Усе гэтыя асобы былі расстраляны. Целы забітых удалося пахаваць. Цяпер на магіле гэтых 7 асоб ў Ялоўцы паставілі мемарыяльную дошку.

Зараз Луплянка — гэта даволі вялікая вёска ў грамадзе Шымкі. 2 верасня 1965 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё вялікай мураванай школы. Неўзабаве ў школе паявіліся радыёпрыёмнік і тэлевізар. Тэлевізар у школе быў першым тэлевізарам у цэлай ваколіцы. Навокал школы пасаджана многа кветак. Растуць тут нагодкі і астры, якія цвітуць да позняй восені.

У школе працуюць: кіраўнік Міхась Рыгаровіч, настаўнікі — Ніна Рыгаровіч, Лідзія Грыц, Станіслаў Высоцкі і Аляксандр Апяцёнак. У вёсцы Луплянка дзейнічаюць ЗМВ і БГКТ, ёсць клуб «Рух».

Зараз вёска адбудавалася. Пабудавана тут многа новых дамоў, клуняў і гд.

Іван Паднарэўскі
Луплянка

### У ГАРАДСКІМ КЛУБЕ БГКТ У БЕЛАСТОКУ

У 1969 годзе ў клубе БГКТ у Беластоку пры вул. Варшаўскай адбылося шмат цікавых дакладаў і аўтарскіх сустрэч. Даклады чыталі лектары БГКТ і ТВП. І так адбываліся даклады на тэмы: жыцця, культуры і звычаяў першабытных беларусаў, узнікнення і фарміравання беларускай мовы, актуальнай міжнароднай сітуацыі, сувязей Леніна з Польшчай і гд. У клубе адбыліся аўтарскія сустрэчы членаў літаб'яднання «Белавежа» Алеся Барскага і Сакрата Яновіча.

Даклады вяліся з рознымі дапаможнікамі і карысталіся вялікім зацікаўленнем сярод беларускага насельніцтва, пражываючага ў Беластоку. У падрыхтоўцы гэтага роду мерапрыемстваў многа працы ўклалі актывісты гарадскога аддзела БГКТ.

Янка Цялушэцкі
Беласток

### НЕБЯСПЕЧНАЯ ЗАБАЎКА

Дзе толькі бываюць царкоўныя фэсты, там між іншым прадаюцца пугачы і коркі да страляння. Такія пугачы і коркі ў момант расхопяць падлёткі. Нярэдка таксама купляюць іх і старэйшыя. Потым увесь час дзеці страляюць каля страганаў і між людзьмі. Многім людзям гэта вельмі непрыемна слухаць, бо дзеці як на злосць страляюць ззаду, а найчасцей пад вуха. Пасля такога выстралу са спаленага корка пасыплецца попел на людзей, апранутых па-святочнаму. За такі выбух некаторым хлапчукам здараецца абарваць па вушах.

Часта здараецца дзецям у час заладоўвання корка, што грымне стрэл. Прычына — неадцягненая іголіца. А вынік — папараныя пальцы, або асмаленыя бровы. Бывае і так, што калі хлапчук выстраліць, разарвецца нават дула, тады выпускае з рукі пугач і закрывае далонямі вочы. Калі адкрые, з вачэй коцяцца слёзы, на твары ўтвараюцца чырвоныя прышчыкі. Купленыя коркі да пугача дзеці пераважна носяць у кішэнях, а гэта небяспечна, таму, што коркі паціраюцца адзін аб другі і ўсе раптам могуць загарэцца і прапаліць кішэнь.

Я. М.
Гайнаўскі павет

---

вальны надпіс ад Гітлера за верную службу.

— Хлопцы, сюды! — паклікаў Мельнікаў. — Зірніце, браткі, што тут робіцца! Гэтулькі курыва дарма прападае...

Сцены прасторнага пакоя былі абстаўлены стэлажамі ад падлогі да самай столі. На паліцах акуратна раскладзены пачкі з тытунём, папяросамі, цыгарамі.

Плаваючы на караблях гандлёвага флоту ў даваенны час, барадаты марак збіраў калекцыі тытунёвых вырабаў. Па датах на пачках, па назвах краін і гарадоў можна было прасачыць маршрут адпраўленага на той свет «марскога ваўка». Фатаграфія, на якой стаіць на мосціку падводнай лодкі, сведчыла аб яго апошняй службе. Жалезны і рыцарскі крыжы з дубовымі вянкамі, корцік ад Гітлера — пераканаўчая атэстацыя за разбой на моры.

На днёўку спыніліся ў дзяржаўным лесе пад назваю Неманін, паміж рэкамі Гільге і Неманін Шрол. Рэкі гэтыя злучаны паміж сабой каналам Зекенбург. У гэтым чатырохкутніку, утвораным рэкамі, каналам і залівам, мы спыніліся ў густых зарасніках чароту. Сыра, няўтульна было ў нізкіх, забалочаных мясцінах, але мы нарвалі чароту, скруцілі яго ў пучкі і паселі на іх, замаскіраваліся. Нам здавалася, што менш за ўсё нас тут могуць шукаць.

Праз некалькі хвілін перад Аўчаровым, метраў за пяць ад яго, спынілася трое: пасярэдзіне здаравенны бамбіза ў акулярах з ручным кулямётам, а па баках ад яго аўтаматчыкі.

— Хэндэ хох! — скамандаваў кулямётчык Аўчарову.

Генка імгненна павярнуўся на голас: ён стаяў за дрэвамі і не відзён быў гітлераўцам.

— Зброю к назе! — нечакана скамандаваў ён па-нямецку.

Яму патрэбная была нейкая доля секунды, каб падняць аўтамат. Пакуль немцы разабраліся, што да чаго, секанула доўгая чарга.

Стральба імгненна падняла нас на ногі. Выхад быў толькі адзін — ісці да канала. Трэба было як мага хутчэй фарсіраваць яго. За каналам вялікі лес; да вечара можна манеўраваць, а ноч была саюзніцай разведчыкаў. Тут жа, у гэтым малым чатырохкутніку, бадай немагчыма было ўхіліцца ад аблавы. Адно непакоіла камандзіра, і не толькі яго, але і ўсіх нас: а калі ўздоўж канала стаіліся засады? Тады наша справа дрэнь.

Хоць мы ўжо мелі сякі-такі вопыт у пераадоленні водных перашкод, але ж цераз канал Зекенбург трэба было перабрацца сярод белага дня, а не ноччу. Такое нам выпала ўпершыню.

Зброю, боепрыпасы, батарэі, боты — увесь груз пераправілі на чаротавых звязках. Калі пераправіліся самі, Зварыка сказаў:

— Не шкодзіла б вопратку выкруціць. Ісці будзе лягчэй.

— Не час, — запярэчыў Шпакаў. — Наперадзе яшчэ Неманін Шрол. Хутчэй разбірайцеся. Трэба спяшацца.

Цераз раку пераправіліся на плытах, звязаных з бярвенняў, якія штабялямі ляжалі непадалёку. Затым увайшлі ва ўрочышча Грожас Мосбрук, непадалёку ад вёскі Эльхталь. Так мы зноў апынуліся ў тым жа раёне, дзе прызямліліся ноччу на 27 ліпеня, толькі на гэты раз прыйшлі сюды з паўночнага захаду.

**(Працяг будзе)**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Biały pokój" (bułg.), 13—14. „63 dni" (polski), 15—16. „Trzy dni" (polski), 17—18.

**Дубіны**

„Brzoza" (jugosł.), „Pustelnia Parmeńska" (franc.), 17—18.

**Нараўка**

„Pomyłka szpiega" (radz.), „Napad stulecia" (angl.), 14—18.

**Нарва**

„Ostatnie dni" (polski), „Kapryśne lato" (franc.), 14—18.

**Чыжы**

„Weekend z dziewczyną" (polski), „Pierwszy krzyk" (czeski), 14—18.

**Дубічы Царкоўныя**

„On nie chciał zabijać" (radz.), „Zakochana wiedźma" (włoski), 14—18.

**Арэшкава**

„Start" (belg.), „Wiryneja" (radz.), 14—18.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Cena strachu" (franc.), „Gorzkie życie" (włoski), 14—18.

**Орля**

„Taki duży chłopiec" (radz.), „Komedia pomyłek" (polski), 14—18.

**Райск**

„Krzyżacy" (polski), „Wątła nić" (USA), 14—18.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**

„Szósty lipca" (radz.), 13—14. „Milion lat przed naszą erą" (angl.), 15—16. „Między wrześniem a majem" (polski), 17—18.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Pluton 317" (franc.), 13—14. „Polowanie na mężczyznę" (franc.), 15—16. „Przygoda z piosenką" (polski), 17—18.

**Янаў**

„Kochałem cię" (polski), 14—18.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Ballada huzarska" (radz.). „Stawka większa niż życie" (polski), 14—18.

**Мельнік**

„Gorące lato" (jugosł.), 13—14. „Październik" (radz.), 15—16. „Grawitacja" (jugosł.), 17—18.

**Мілейчыцы**

„Za frontem" (radz.), 13—14. „Przygody Tomka Saywera" (rumuński), 15—16. „Śmierć Indianina" (jugosł.), 17—18.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Czerwone i złote" (polski), 14—18.

**Новы Двор**

„Człowiek z M-3" (polski), „Dr Crippen przed sądem" (angl.), 17—18.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7023

